№ I (7) сакавік 1989

# Хрысьціянскія навіны





RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

## БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

### ПАСЬЛЯ-СЫНАДАЛЬНАЯ АПОСТАЛЬСКАЯ ЭКЗАРТАЦЫЯ ЯНА ПАЎЛА II

Новая Апостальская Экзартацыя Сьвяцейшага Айца зьяўляецца "верным і кагэрэнтным выразамзьнем" Сыноду Біскупаў 1987 году.

Дакумант складаецца з уступу, пяці раздзелаў, канчатковага заклiку ды малітвы да Найсьвятой Багародзіцы. Экзартацыя характарызуецца глыбокім біблейскім духам. Ян Павал II карыстаецца "усім багацьцем сынадальных прац", а менавіта зьместам "прапаноў" Айцоў Сыноду, абапіраючыся на ўнітарным біблейскім матыве, а менавіта на эвангельскім вобразе "Гасподняга вінаградніка". Ужо ў самым уступе ўдакладніваецца, што заклік эвангельскага Гаспадара дому: "Ідзіце і вы ў мой вінаграднік" указвае на значэньне пакліканьня і місіі сьвецкіх асоб.

Дакумант пачынаецца вось гэтымі словамі:
"Звычайныя вернікі, якіх ,пакліканьне і місія ў Царкве і ў сьвеце, была тэмаю Сыноду Біскупаў 1987 году, належаць да Божага Народу. Яны зьяўляюцца "работнікамі вінаградніка", аб якіх гаворыць Эвангельле паводле Матэя".

Папа заканчвае сваю Экзартацыю заклікам Эвангельскага Гаспадара дому: "Ідзіце і вы ў мой вінаграднік". Можна сказаць, што значэньне Сыноду на тэму пакліканьня і місіі сьвецкіх асоб заключаецца менавіта ў гэтым Гасподнім заклiку накіраваным да ўсіх. Новая Апостальская Экзартацыя заахвочвае звычайных вернікаў да актыўнага, сьведамага і адказнага ўдзельнічаньня ў місіі Царквы у гэтым надзвычайным і драматычным моманьце гісторыі, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя.

78 УГОДКІ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ АРХІМАНДРЫТА ЛЬВА ГАРОШКІ!

Леў Гарошка нарадзіўся 26 лютага 1911 году ў вёсцы Трашчыны, ў павеце Стаўпецкім. Ахрышчаны быў у царкве ў Турцы. Сям'я Харашкоў (гэтак калісьці называліся Гарошкі) афіцыйна была праваслаўнай, хаця жылі ў ёй яшчэ традыцыі вуніі. Асабліва дзед будучага сьвятара быў чалавекам пабожным, сьпяваў вуніяцкія песьні і захоўваў традыцыі "старой" веры.

Не без уплыву на душу малога Льва- ды не толькі яго- было і тое, што далёкія занёманскія сенакосы яго бацькі стыкаліся з Дзярэчынцамі, якія праславіліся на ўсю Беларусь сваею стойкасьцю ў абароне вуніі перад царскім прасьледаваньнем. Іншай характэрнай рысай сям,і Льва была цяга да ведаў, якую здабывалі рознымі магчымымі спосабамі, а найбольш цераз самаадукацыю. Бацька яго Юры перш вучыўся за каваля, потым, калі пайшоў у маскалі, скончыў там фэльчарскую школу. Гэта дало яму магчымасьць крышку лепш уладзіцца жыцьцёва і шмат памагаць у няшчасьці другім, асабліва ў часы войнаў. Зноўжа бабка айца Льва зналася на акушэрскіх справах і была зьбіральніцай лекавых зёлак.

Скончыўшы памысна сямігодку ў Міры, Гарошка жадаў трапіць ў тэхнічную школу ў Вільні, аднак хаця і здаў экзамены, яго туды не прынялі дзеля дрэннага лекарскага пасьведчаньня аб стане здароўя. Сумным быў юнак, калі зноў мусіў вяртацца дамоў. Не пакінуў аднак думкі, каб не вучыцца далей. Наступнага году здае экзаміны ў Беларускую Наваградзкую Гімназію.

Пэрыяд здабываньня сярэдняй асьветы, хаця паводле сваей натуры ёсьць пераходным, аднак вельмі важным у жыцьці чалавека. У гэтым часе ён дасьпявае не толькі інтэлектуальна, але таксама псіхічна і фізычна.

Айцец Арміманрыт Леў ад маленства пачуваў сябе беларусам. У хаце яго дзеда быў добра ведамы твор "Тарас на Парнасе", а да яго бацькі прыходзілі беларускія газэты з Вільні, сярод якіх найбольш запамяталася дасьціпная "Маланка".

У беларускай гімназіі, міма розных цяжкасьцяў і недахопаў, для чуллівай душы юнака абставіны сьведамай беларускай атмасфэры былі дастаткова спрыяльныя, каб тут залажыць на заўсёды моцныя фундаманты для далейшага зацікаўленьня сваёй краінай, ейнай культурай і змаганьнем за гэтыя цэннасьці. У сваіх успамінах айцец Леў так піша аб Наваградку і беларускай гімназіі: "Для ўзгадаваўчае працы Наваградак меў шмат выняткова спрыяючых даных. Гэта-ж горад з багатым гістарычным мінулым: гэта першая сталіца Вялікага Літоўскага (ў сёньняшнім значэньні Беларускага) Княства. Узгорак Міндоўга, Замкавая Гара з руінамі магутнага замку, Барысаглебаўская і Фарная Цэрквы, недалёкая Літвінка, цікавыя архэалагічныя знаходкі пад-час розных раскопкаў- усё гэта жывыя сьведкі слаўных старонак беларускае гісторыі, якія кожнаму беларусу наагул, а вучням беларускае гімназіі ў асаблівасьці маглі прамаўляць сваім нямым маўчаньнем больш чым пісаным словам. Гэтыя пачаткі былі нязвычайнымі настаўнікамі, ад якіх можна было навучыцца любіць родны край і народ.

Я вучыўся ў гімназіі як-раз тады, калі яна перажывала свой лепшы час. Лік вучняў павялічваўся з году ў год і стары наняты будынак на рагу рынкавае плошчы станавіўся зусім нездавальняючым для яе патрэбаў і дырэкцыя парабіла захады, каб мець уласны адпаведны будынак. На пачатку 1929 году быў створаны Камітэт Будовы Гмаху Беларускае Бурсы ў Навагрудку. Старшынёю яго згадзілася быць страсьціха Т. Грынеўская, а заступнікам старшыні быў адвакат Павал Сьвірыд. Камітэт адразу энэргічна ўзяўся за працу. Настаўнікі і вучні хадзілі па ваколічных вёсках з падпіснымі лістамі. Ня гледзячы на беднасьць сялянства ахвярнасьць была вялікая і ўжо да восені распачалі будову гмаху".

Дырэктарам гімназіі быў сп.Янка Цеханоўскі, ён-жа быў і настаўнікам беларускай літаратуры і францускай мовы. Іншыя настаўнікі былі Аляксандар Данілевіч і А.Мілоў. Ад 1930 году вучыў біялёгію і прыродазнаўства др.Аляксандар Орса, а настаўнікам гісторыі быў М. Чатырка. Хорам і аркестрам кіраваў кампазытар Антон Валынчык. Слабым пунктам нажаль сярод прадметаў была рэлігія, якой вучыў а.Васіль Бабкоўскі, пазьнейшы архібіскуп Бэнэдыкт. Ён ужываў паўсюдна расейскую мову насуперак жаданьням вучняў.

Навагрудзкая гімназія была прырода-матэматычнага тыпу, коэдукацыйная. Большая частка вучняў жыла ў бурсах. Харчаваліся вельмі бедна. Таксама недахоп кніжак даваўся ў знакі. Гімназіст Гарошка, каб зарабіць хоць крыху грошаў, даваў лекцыі слабейшым вучням з польскай навагрудзкай гімназіі.

Да матарыяльных цяжкасьцяў вучняў даходзіла яшчэ іншая: сьледжаньне тайнае і яўнае паліцыі не толькі за беларускімі дзеячамі і настаўнікамі, але таксама і за вучнямі.

У 1928 годзе зарганізаваўся ў гімназіі Вучнёўскі Гурток, які рыхтаваў беларускія прадстаўленьні і часта ладзіў так званыя суботнікі. Адным з больш дзейных кіраўнікоў такіх суботнікаў быў Архімандрыт Леў. У 1931 годзе Леў Гарошка разам з 13 сябрамі здаў з вельмі добрым вынікам- як першы сярод вучняў- матуральны экзамін. Было тады яму роўна 20 гадоў. І вось трэба было адказаць на сутнае пытаньне: што далей?

(працяг будзе)

## ХРОНІКА

(люты)

### І. ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

У лютым Ян Павал II меў кожнае серады, апрача 15 лютага, сваю агульную аўдыенцыю ў Аўлі Паўла VI. Вось тэмы яго разважаньняў:

I 02. "Ад пустога гробу да спатканьня з Уваскросшым".

8 02. Гаварыў пра значэньне Вялікага Посту.

15 02. Не адбылася з прычыны рэкалекцый.

22 02. "Асаблівасьці зьяўленьняў уваскросшага Хрыста"

ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ СТУДЭНЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ!

(Заканчэньне)

Ад гэтага вырашэньня прыслугоўвала магчымасьць адкліканьня да міністра ўнутраных спраў, што нашыя студэнты выкарысталі. У адкліканьні заяўляюць яны: "Аналіз статута не можа гаварыць пра немэтазгоднасьць рэгістрацыі, бо патрэба існаваньня ці неіснаваньня арганізацыі выцякае з грамадскага запатрабаваньня. Сьцьверджаньне "немэтазгоднасьці" ёсьць глыбока крыўдным і несправядлівым для цэлага асяродзя беларускіх студэнтаў у Польшчы, якія патрабуюць ўласнага незалежнага і самакіруючага аб'яднаньня. "Існуючыя структуры", гэта толькі паўсродкі і дзейнасьць ў іх рамках ні ў якім выпадку не можа задавальняць маладога пакаленьня беларускай інтэлігенцыі. /.../ Трэба звярнуць ўвагу, што матывіроўка адмовы рэгістрацыі тычылася толькі беларускіх студэнтаў. Статут жа выразна гаворыць аб прыналежнасьці да БАС студэнтаў-палякаў. Уже да сёньня Установчы камітэт атрымаў каля ста заяў студэнтаў не-беларусаў. /.../ На канец трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што незалежнае аб'яднаньне з вызначанымі статутам мэтамі зьяўляецца амбіцыяй і патрэбаю цэлага асяродзя беларускіх студэнтаў у Польскай Народнай Рэспубліцы. Гэтая справа закраналася ад пачатку актывізацыі нашага руху. Мы грамадзяне гэтай дзяржавы і згодна з Канстытуцыяй, маем права на арганізацыйную дзейнасьць ў рамках існуючага парадку. Чаму затым улады лічаць існаваньне беларускага студэнцкага аб'яднаньня немэтазгодным? Ці трэба разумець, што галоўныя нашыя мэты, гэта значыць, развіцьцё беларускай культуры і беларуска-польскае пагадненьне, гэта мала істотныя справы, якія не заслугоўваюць на падтрымку, а зусім наадварот- на ліквідацыю? Адказ на нашае адкліканьне будзе заадно адказам і на гэтае пытаньне. Адмова рэгістрацыі можа быць ўспрынята, як праява дыскрымінацыі культуры і самой беларускай меншасьці ў Польшчы, што зьяўляецца нязгодным з гарантыямі Канстытуцыі ПНР, як і роўнасьцю перад законам усіх грамадзян краіны, незалежна ад паходжаньня".

Адкліканьне прынесла рэзультат- Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў было зарэгістраванае 23 лістапада 1988г. Перад беларускімі студэнтамі ў Польшчы стварыліся новыя магчымасьці дзейнасьці. Дзеля стварэньня трывалых падстаў пад будучае нацыянальнае студэнцкае жыцьцё, на 17 сьнежня, быў склікань арганізацыйны З'езд Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў, які вырашыў галоўныя напрамкі дзейнасьці і выбраў ўлады арганізацыі. Праводзіўся ён у памешканьні Галоўнага Праўленьня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, на вуліцы Варшаўскай 11. Члены ўстаноўчага камітэту ўже загадзя падрыхтавалі дакуманты, якія далі пад развагу ўдзельнікам з'езду, а менавіта: пасланьне да ўсяе беларускае моладзі ў Польшчы, перад усім на Беласточчыне, пасланьне да польскай студэнцкай моладзі і ліст-падтрымку пачынаньням народнага фронту ў Савецкай Беларусі. Старшынёю Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў быў выбраны Яўген Вапа- студэнт гісторыі Варшаўскага Унівэрсытэту.

## ІТАЛЬЯНСКІЯ ГАЗЭТЫ ПРА МІТЫНГ У МЕНСКУ

Шматлікія італьянскія газэты пісалі аб ім, уключна з Ватыканскім "Оссэрваторэ Романо" (ад 23 02 89). Усе пісалі прыблізна наступнае:

Па-над 40 тысяч асоб, якія выкрыквалі "аўтаномія для Беларусі" і "ніякі давер наменклатуры", ўдзельнічала ў "нефармальным" мітынгу, каторы адбыўся ў Менску. Так піша орган узброенных сіл СССР "Чырвоная Зьвязда", без удакладніваньня даты маніфэстацыі. Нават савецкае агенцтва ТАСС не ўспамінае даты гэтай маніфэстацыі, мяркуючы, што лік яе ўдзельнікаў быў каля "30 тысяч асоб" і ўдакладнівае, што выдаткі зьвязаныя з мітынгам былі пакрытыя гарадскою адміністрацыяю і кожны меў магчымасьць на ёй прамаўляць. Мітынг быў скліканы рознымі нефармальнымі таварыствамі, сярод якіх быў Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне". Мітынг быў аўтарызаваны і яго адкрыў старшыня Савету Менску Уладзімір Міхасёў, каторы заклікаў прысутных захоўвацца "з духам адзінства".

Сярод сьцягаў якія трымалі ў руках удзельнікі мітынгу, пераважалі бел-чырвона-белыя. Гэта былі беларускія нацыянальныя колеры.

Гэта першы раз, што ў Менску зарганізавана нефармальнымі групамі маніфэстацыя атрымала дазвол ад мясцовай партыйнай арганізацыі; толькі пару месяцаў таму назад падобную маніфэстацыю зарганізаваў "Мартыралог Беларусі" (Беларускае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму) была разагнана міліцыяю; пад-час калі ў Маскве тая самая арганізацыя зьвярнула на сябе ўвагу прэсы і прыхільнікаў перабудовы.

"Чырвоная Зьвязда" паведамляе, што пад-час мітынгу мелі месца некаторыя "выступленьні экстрэмістаў" і пробы вырываньня з рук мікрафону, але падкрэсьлівае, што большасьць з тых хто прамаўляў выказвалася за "аб'яднаньнем усіх сіл Рэспублікі" ў змаганьні за перабудову і дэмакратызацыю.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

А цэрква, макаўка сьвятая,
Народу поўна, блескам зьзяе.
Сярод царкоўкі плашчаніца
Стаіць між елачак зялёных.
Кабеты, дзеўкі, маладзіцы
Ідуць-плывуць да плашчаніцы
У хустках белых і чырвоных,
Набожна хрысьцяцца, ўздыхаюць
І лбом данізу прыпадаюць.
Направа сталыя мужчыны
Стаяць, разгладзіўшы маршчыны
А Чыліноў Алесь надзьмуўся,
Ў сьвятыя дзеяньні уткнуўся
І там, дзе слоў не расчытае,
На сажань голас працягае.
— Вось Чыліны як дацінаюць! —
Чытаньне людзі адзначаюць.
Народ кальшыцца, хвалюе,
Бы ў цёмным віры вада тая,
І ўсё плыве, ўсё прыбывае
І ўлады сну ён больш ня чуе,
І блізак час сьвятой дзяньніцы.
„Хрыстос ўваскрос!" — з гары-званіцы
Вяшчае першы звон шчасьліва.

Народ увесь, бы ў полі ніва
Буйнымі гнеццa каласамі,
Скланіўся ціха галавамі.
А пачакаўшы з поўгадзіны,
Нясуць жанкі, нясуць мужчыны
Кашы, каробкі, поўвасьміны
І ставяць ўрад на цьвінтары
Усе вялікодныя дары.
Маленьне бацька-поп канчае,
Ідзе з крапідлам і махае.
Заварушыліся каробкі,
Кашы, рашэты, поўвасьміны, —
Чакалі доўга той часіны
Дзямян, Шабас, Казімір, Сьцёпка.
Паперлі полем русакоўцы,
Бягуць да коней сьвержаноўцы,
Гудуць, склікаюцца, віншуюць,
Адны другіх ў галдзе ня чуюць,
І ўсе сьпяшаюцца, бягуць,
Каб рот свой скорамам заткнуць.

Антось зь Міхалам тож гатовы.
— Сьвяткуйце-ж весялы, здаровы! —
Усім дабра яны жадаюць
І за вароты выязджаюць.
А людзі ў хатах не драмалі:
Ўжо „аляпюя" адсьпявалі
І за сталамі ўсёй сям'ёю
Сядзелі — цешыліся ядою.
Пануці конік не чакае,
І сам ён рысьсю запускае,
Як-бы сьпяшаецца дамоў
Замчаць сваіх гаспадароў.
А новы дзень, даўно жаданы,
Ўжо сыпле багру на курганы,
І стрэлы-косы залатыя
На ўзгоркі падаюць крутыя.
А хмаркі ў фарбах златалітых,
У шаўкох, агністых аксамітах,
То паасобку, то гурткамі,
То залатымі ланцужкамі,
Як-бы сьпніўшысь нярухліва,
Усьмешкі кідаюць шчасьліва, —
І ім хацелася, відаць,
Сьвяты Вялікаднік вітаць.
— Ну, едуць, едуць! — Алесь з хаты
Бяжыць да дзядзькі і да таты,
І дзеці кінуліс к парогу.
— Ну, вось і дома, дзякуй Богу!
Прышлі у хату, ўсіх цалуюць,
Зь сьвятым Вялікаднем віншуюць;
Памыліcь борзьдзенька, садзяцца,
Бо час даўно ім разгаўляцца.
Абрусам белым стол накрыты,
Ўсё мае выгляд самавіты;
Мужчыны добры і прыветны,
Ніякай цені незаметна.
На бэльку кінуў бацька вочы,
Бярэ кантычку і гартае,
„Вэсолы нам дзісь дзень" шукае.
Хоць сьпевы слухаць неахвочы,
Але трымаюць дзеці згоду,
Бо ўжо вялось так год ад году.
„Вэсолы" ў „ксёнжцы" дзесь прапалі,
Насілу ўдвух іх адшукалі
І раптам дружна зацягнулі,
Як-бы іх пугай сьцябанулі;
І маці голас далучае
І так танютка вырабляе,
А гаспадар ўсё болей з баса
Утне такога выкрутаса,
Аж сам падзівіцца сабе,
І стане горача табе.
Антось бярэ больш танкавата
Й не адстае ніяк ад брата,
А хлопцы толькі усьміхнуцца,
Але сядзяць, не зварухнуцца.
К канцу падходзіць „аляпюя",
Ў камору маці тут тралюе,
Нясе прынадную бутэльку.
Кантычка зноў ідзе на бэльку.
Відэльцы дружна разьбіраюць
І гуртам яйкі ачышчаюць,
І па кусочку іх бяруць,
Крыху падсольваюць, ядуць.
Вось бацька чарку налівае
І вочы ўгору падымае.
— Дай, Божа, за год дачакаць
Здаровым, вясёлым, жывым
І новы Вялікдзень таксама спаткаць
У добрым здаровейку ўсім,
Каб гора і смутку ня зналі.
— Дай Божа! — разам адказалі.
І пайшла чарка з рук у рукі,
Пілі ўсе гладка, бяз прынукі;
Малым папробаваць далі,
Каб весялейшыя былі.
А на стале тым — рай ды годзе,
Таго ня знойдзеш і ў „камродзе":
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зьверху, сакаўная,
Як-бы агонь у ёй палае,
А ніз бялюткі, паркалёвы;
Кілбасы-скруткі, як падковы,
Між сьцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсьвінак,
Чысьцюткі, сьвежы і румяны,
Як-бы паніч той падзіманы.
Муштарда, хрэн — адно дзяржыся,
У рот паложыш — сьцеражыся!
А пірагі, як сонца, зьзялі,
І ў роце бабкі раставалі.
Із смакам елі і багата —
На тое-ж даў Бог людзям сьвята.

ЯКУБ КОЛАС "НОВАЯ ЗЯМЛЯ".

ВЯЛІКОДНЫЯ ДЫ САКАВІКОВЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ І ПАЖАДАНЬНІ

ПЕРАСЫЛАЕМ НАШЫМ СУРОДЗІЧАМ ЧЫТАЧАМ!